*● КОЛА ДУМАК*

# Там, дзе прайшла меліярацыя

**СЁННЯ БОЛЬШ, ЧЫМ ДАСТАТКОВА КЛОПАТУ Ў РАБОТНІКАЎ РАЁННАГА МІЖГАСПАДАРЧАГА ЎПРАЎЛЕННЯ АСУШАЛЬНА-АРАШАЛЬНЫХ СІСТЭМ**

*Каб пераканацца, што гэта менавіта так, дастаткова было паразмаўляць з начальнікам Івацэвіцкага МУААСа М. Г. Дзядком. Інжынер-гідрамеліяратар па адукацыі і спецыяльнасці, ён дзевяць гадоў працаваў у міжгаспадарчым упраўленні на пасадах тэхніка, начальніка ўчастка, пазней — галоўнага інжынера і сёння добра ведае, што праведзеная некалі меліярацыя, шырока праводзімая дзяржавай за яе кошт як у нашым раёне, так і па ўсёй рэспубліцы, утойвае ў сябе не толькі дабро, але і зло. Сапраўды, гэта добра, што адваяваны ў балотаў тысячы гектараў высокаўрадлівых зямель. Але разам з тым, хутчэй з-за блізарукасці вучоных, якія лёгка адгукаліся на партыйны заказ „зверху” і ахвотна абгрунтоўвалі ў сваіх навуковых працах карысць ад правядзення аднабаковай меліярацыі, што ўключала ў сябе толькі адзін цыкл — асушэнне пераўвільготненых земляў, ствараўся водны дысбаланс, немагчыма было рэгуляваць водны рэжым. Да чаго гэта прывяло ўжо праз 10–15 гадоў, таму, хто працуе ў сельскай гаспадарцы, тлумачыць не трэба. Пасля непрацяглай эйфарыі ад даволі высокіх ураджаяў, атрыманых на асушаных тарфяніках, у многіх гаспадарках забілі трывогу: маўляў, палям не хапае вільгаці, тарфянікі „лысеюць”, з кожным годам ператвараючыся ў пясчанікі. Пры гэтым ператвараліся ў малаўрадлівыя землі не толькі былыя балотныя глебы, але і плошчы з мінералкай, якая ўсё больш „паспытвала смагу”.*

*Тым часам дзяржава, спахапіўшыся, аб'явіла, а тыя ж вучоныя падтрымалі, што сапраўдная меліярацыя — гэта не толькі асушэнне, але і арашэнне. Пачалі з'яўляцца новыя, ужо двухцыклавыя меліярацыйныя сістэмы, заклікаaныя выправіць дапушчаную памылку. Ды аказалася, позна, на такія работы стала хранічна не хапаць фінансавых сродкаў. Сёння іх наогул няма, і тая ж дзяржава, можна сказаць, „умыла рукі”, амаль што пакінуўшы калгасы і саўгасы на волю лёсу. Адна надзея ў апошніх — на дапамогу міжгаспадарчага меліярацыйнага ўпраўлення асушальна-арашальных сістэм. Праўда, назва арганізацыі не зусім па сённяшніх мерках адпавядае свайму прызначэнню, і „зверху” ўжо спусцілі новую, больш сучасную — дзяржаўнае*



*прадпрыемства па будаўніцтву і эксплуатацыі меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм, у якой на першым месцы стаіць слова „будаўніцтва”. МУААС, дарэчы, даўно ўжо мае ліцэнзію на правядзенне такіх работ. Галоўная ж функцыя прадпрыемства — прадоўжыць „эксплуатацыйны век” састарэлых меліярацыйных збудаванняў, да максімуму павялічыўшы іх карыснасць і зменшыўшы шкоду шляхам двухбаковага рэгулявання воднага рэжыму. Прасцей кажучы, арганізаваць такі догляд за меліярацыйнымі сеткамі, каб яны давалі найбольшую аддачу. І работы тут, як прызнаўся ў размове з нашым карэспандэнтам Мікалаем РЫМАЧАМ М. Г. ДЗЯДОК, больш чым адбаўляй.*

**— Канкрэтызуйце, калі ласка, Міхаіл Георгіевіч, што гэта за работа. Да таго ж, далёка не кожны з нашых чытачоў ведае, чым вы займаецеся.**

— Што праўда-тое праўда, пра нас няшмат гавораць і, тым больш, няшмат пішуць. А, між тым, кола абавязкаў у нас даволі шырокае. Асабліва цяпер, калі пабудаваныя 30 гадоў назад меліярацыйныя сеткі ўжо, па сутнасці, выйшлі са строю, а на новыя няма сродкаў ні ў дзяржавы, ні, тым больш, у гаспадарак. Адзіны паратунак у такім становішчы — паўсюдна праводзіць рэканструкцыю, прытым такую, якая б не толькі прадоўжыла жыццё меліярацыйных сістэм, але і, калі можна так сказаць, падтасавала іх пад сучасныя патрабаванні. Хопіць, бо даасушваліся, надышоў час строга рэгуляваць узровень грунтовых водаў, каб супрацьстаяць засушліваму надвор'ю, не пакінуць без вільгаці нашы палі і ў той жа час „скідваць” з іх лішнюю ваду, калі ўзнікае такая патрэба. Зразумела, гэта магчыма пры паўсядзённым доглядзе за міжгаспадарчай сеткай, якая ўяўляе сабой 621 кіламетр адкрытых каналаў, і ўнутрыгаспадарчай сеткай працягласцю амаль 2,5 тысячы кіламетраў. Вось, па сутнасці, такі, кажучы ваенвай мовай, плацдарм нашых баявых дзеянняў. На ім і ваюем.

**— І перамагаеце?**

— А гэта ўжо як сказаць: „Вядзем баі” з пераменным поспехам, як некалі пісалі ў ваенных зводках.

**— Што гэта азначае ў пераводзе на цывільную, ці лепш будзе сказаць, на мірную мову?**

— Толькі тое, што патрабуецца рэканструкцыя меліярацыйных збудаванняў на 18 тысячах з 45-ці тысяч гектараў абслугоўваемых намі сельгасугоддзяў, на якіх у свой час была праведзена меліярацыя. А раён наш, трэба, сказаць, даволі складаны ў сэнсе свайго геаграфічнага месцазнаходжання. 50 працэнтаў існуючых у нас польдэрных сістэм працуюць за кошт механічнага водаадліву, чым і дыктуецца неабходнасць кіравання водным рэжымам. Над гэтым і працуем.

А чаму, як я выказаўся, з пераменным поспехам, дык гэта тлумачыцца сённяшнім складаным часам. Работы на меліяраваных палях шмат, а грошай і ў дзяржавы, якая са свайго бюджэту фінансуе абслугоўванне намі міжгаспадарчай сеткі, ні ў калгасаў, каб аплаціць нам работы на іхніх унутрыгаспадарчых сетках, катастрафічна не хапае. Мы ж, каб даглядаць меліярацыйныя каналы, заключаем кантракты напрамую з міністэрствам сельскай гаспадаркі. Што датычыць той жа унутрыгаспадарчай сеткі, якая, як я ужо казаў, доўжыцца амаль дзве з паловай тысячы кіламетраў, дык на іх абслугоўванне мы вымушаны заключаць дагаворы толькі з плацёжаздольнымі калгасамі, хаця, па сутнасці, усе яны маюць патрэбу ў нашых паслугах. Але мы не можам ужо, проста не ў стане дапамагчы ўсім, бо самі знаходзімся ў цяжкім фінансавым становішчы.

**— Гэта можна прадэманстраваць на нейкіх лічбах?**

— Чаму ж не. Ёсць у нас гаспадаркі, якія не могуць разлічыцца з намі вось ужо тры гады. Калі мы запазычыліся электрасеткам каля паўмільярда рублёў, дык нам доўг перакрывае гэту лічбу больш чым у два разы. Дайце нам тыя 1 мільярд 55 мільёнаў рублёў — гэта ж якая падмога для нас была б. Пры ўсім тым пры ўжо прафінансаваным на гэты год з рэспубліканскага бюджэту плане ў суме 1 мільярд 550 мільёнаў мы фактычна выканалі работ на 2 мільярды 257 мільёнаў рублёў. Ад нас увесь час патрабуюць: давай, давай! Але пры гэтым не пытаюцца, якія ёсць для гэтага ў нас магчымасці, і, канечне ж, не спяшаюцца выдзяляць патрэбныя грашовыя сродкі. Вось і цяпер чакаем, што дадуць іх у трэцім квартале. На адных спадзяванках, атрымліваецца, і працуем.

**— Тым не менш, наколькі я ўжо ведаю, і нядрэнна працуеце. У паўтара раза перавыканалі за прайшоўшы спачатку года час заданне па рамонту міжгаспадарчых сетак. Паспяхова вядуцца работы на рэканструкцыі сямі меліярацыйных аб'ектаў. Дык можа дарма вы ўжо так песімістычна выказваецеся?**

— Што ж, тады прывяду яшчэ некалькі лічбаў. У гэтым годзе нам на правядзенне капітальнага рамонту меліярацыйных сетак патрабуецца 3 мільярды рублёў, выдзелена ж усяго 800 мільёнаў. На бягучы рамонт тых жа сетак і забеспячэнне нармальнай работы польдэрных помпавых станцый трэба яшчэ больш, ужо 6 мільярдаў рублёў, выдзелілі ж нам у два разы менш назначанай сумы. А год на год жа не прыходзіцца. Толькі ў бягучым годзе на работу тых жа помпавых станцый у нас пайшло 890 мільёнаў. Пацягнула тут у асноўным электраэнергія: пры сённяшнім яе кошце гадзіна работы станцыі абыходзіцца нам ні многа ні мала пад сто тысяч рублёў. А станцый такіх у нас 16. Вось і палічыце, колькі трэба плаціць за электрычнасць, калі пры сённяшнім дажджлівым надвор'і адпампоўваць лішнюю ваду нярэдка прыходзіцца круглыя суткі. Гэта некалі нашы помпавыя станцыі працавалі ў аўтаматычным рэжыме, бо такое было магчыма пры таннай электраэнергіі. Цяпер жа яны працуюць толькі тады, калі ўзнікае такая неабходнасць, і тым не менш сродкі на іх утрыманне патрабуюцца, што гаворыцца, „агромадные”.

**— Даруйце, Міхаіл Георгіевіч, але да гэтага я ведаў, што вашы помпавыя станцыі працуюць толькі ўдзень, ноччу на іх ніхто з апаратараў не дзяжурыць. Вы ж кажаце пра круглыя суткі...**

— Правільна кажу. Сапраўды, да нядаўняга часу станцыі на ноч закрываліся. І таму — абкрадваліся. А там жа рухавікі, іншае дарагакаштуючае абсталяванне. Дык замест вартаўнікоў мы зноў, як і было раней, прызначылі на кожную станцыю па чацвёртаму апаратару, што дае магчымасць, зноў жа паўтаруся — пры неабходнасці, арганізаваць работу помпавых станцый кругласутачна.

**— Зразумела цяпер, што і да чаго. Скажыце, на якіх аб'ектах працуюць сёння вашы падначаленыя? Як ладзяцца справы на іх?**

— У гэтым годзе працавалі ў калгасе „Бальшавік”. Зараз вядзем ачыстку меліярацыйных сетак, а, па сутнасці, той жа капітальны іх рамонт, у калгасе „Радзіма”. Хапае работы на аб'ектах у Жытліне, Хадаках і Власаўцах. Працуюць нашы меліяратары ў калгасе „Любішчыцы” на аб'екце „Станевічы” і ў калгасе „Зара” на аб'екце „Заялоўе”. Павінен сказаць, ёсць у нас для правядзення такіх работ дастатковая колькасць тэхнікі, у прыватнасці, 5 аднакаўшовых драглайных экскаватараў, 3 экскаватары з цыркульным каўшом і адзін — шматкаўшовы М-150. Маем і пяць бульдозераў, грэйдзеры, касілкі для абкошвання канаў. Бяда ў тым, што цяжка з палівам для іх, з рознымі тэхнічнымі масламі і, канечне ж, з запчасткамі. А тэхніка з кожным годам зношваецца ўсё больш, што нас, зразумела, не можа не трывожыць. Патрэбны для аднаўлення нашай матэрыяльна-тэхнічнай базы значныя сродкі, якіх, зразумела, няма, а тут, да ўсяго, падаткамі нас літаральна задушваюць. Што паступіць на наш рахунак у банку — тое ж адразу гэтымі падаткамі і „з'ядаецца”.

**— Часта прыходзіцца чуць такое ад кіраўнікоў, Міхаіл Георгіевіч. Падатковы прэс сапраўды сёння непасільны для многіх і аніяк не дае падняцца з каленяў. Каму гэта выгадна вось толькі — незразумела. Для дзяржавы такая выгада абарочваецца другім бокам медаля: яна, бадай што, у канчатковым выніку больш губляе, чым набывае. Знізу гэта бачна, а вось зверху чамусьці не жадаюць гэтага бачыць...**

**А цяпер адкажыце, калі ласка, на апошняе пытанне. Ці вялікі калектыў у МУААСе, якія атрымліваюць людзі заробкі і наколькі своечасова?**

— 152 чалавекі цяпер у штаце ўпраўлення. Заработную плату мы атрымліваем з невялікім спазненнем, а часцей — своечасова. Складае ж яна ў сярэднім на кожнага працуючага 712 тыс. руб. Здаецца, і не так дрэнна ўсё, толькі магло б быць і лепш. Колькі сваіх балячак мы выкладвалі перад рознымі камісіямі і інстанцыямі, ды многія з нашых патрабаванняў так і засталіся „гласом вопиющего в пустыне”. Адно застаецца: спадзявацца на ўласныя сілы і хоць неяк выходзіць з цяжкага сённяшняга становішча.

**— Тады на заканчэнне я жадаю поспехаў у вашых намаганнях. Няхай, нягледзячы ні на што, ніколі не пакідае вас надзея на лепшае. Дзякуй за размову.**

*● СУЧАСНЫЯ КАЗКІ НА СТАРЫ ЛАД*

# АДЗІН ЛЮБІЦЬ – ДЗЕСЯЦЬ РОБЯЦЬ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Вырашыў я расказаць вам адну казку.

Дык вось, у адным дзяржаўным царстве, памерам з наш Івацэвіцкі раён, жыў-быў князь. Не вельмі значны быў князь, меў ранг прыблізна кіраўніка будаўнічай арганізацыі. Хоць і падпарадкоўваўся ён свайму цару, кшталту нашага старшыні райвыканкама, але меў і сам сваіх прыгонных па тыпу нашых простых рабочых.

Была ў князя жонка-прыгажуня, быў і палац свой, гэта як катэдж які ў нашым „царскім сяле”. А яшчэ меў князь палюбоўніцу. А як жа! Які ж гэта князь-кіраўнік палюбоўніцы не мае?! Па штату паложана. Ну, а ў той палюбоўніцы радні хапала, ды і сама яна дама была капрызлівая і патрабавальная. Ёй адных пацалункаў ды абдымкаў мала. Ды маючы такога „сябра сэрца”, як не скарыстаць яго ўладу ды становішча?

А князь наш – чалавек мяккі, чулы. Трэба дык трэба – халопы яго што пажадаеш зробяць. Дзякуй Богу, палюбоўніца палацаў крыштальных не патрабавала. Так, па дробязі. Трэба ёй было нейкія там неадкладныя гаспадарчыя справы ў сядзібе сваёй сваячніцы вырашыць – нашаптала князю на чуйнае вушка.

Тады арганізаваў князь хуценька рабочую брыгаду з дзесятка халопаў ды закінуў іх на дзяржаўнай аўтакарэце на „ўдарны аб'ект”. Папрацавалі халопы шчыра, зрабілі ўсё як след. Ім жа ўсё роўна, дзе рабіць – грошы князь з дзяржаўнай кішэні плаціць. А дрэнна спрацуеш, ці заікнешся аб тым, што не на той аб'ект працаваць адправілі, то размова ў князя з халопамі кароткая – выжане са свайго княства, ды яшчэ такую пратэкцыю выдасць – у турму не возьмуць. А куды пасля пойдзеш, калі рук халопскіх усюды хапае! То няхай сабе любяцца князь з палюбоўніцай, а дзесяць халопаў заўсёды знойдзецца, каб ім ложак мякка пасцяліць.

Вось такая гісторыя адбылася ў адным невялікім княстве аднаго дзяржаўнага царства памерам з наш Івацэвіцкі раён.

**З павагай царскі служачы**

**Мікола ПРЫГОННЫ.**

● БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ

# 1 миллиард 200 миллионов рублей плюс еще несколько миллиардов

*В такую сумму оценил свои честь и достоинство бывший начальник колонии строгого режима, ныне председатель Ивацевичского районного Совета депутатов Н. Волкович, через суд предъявив исковые претензии к газете „Брестский курьер" и ее авторам.*

**ОТ РЕДАКЦИИ:** Публикуя данный юридический документ, оставляем в нем неприкосновенными стиль, пунктуацию и грамматику автора, дабы избежать возможных претензий с его стороны.

„Суду Московского района г. Бреста.

Истец: Волкович Николай Николаевич, г. Ивацевичи (...).

Ответчик: Редакция газеты „Брестский курьер", г. Брест (...).

Соответчики: Авторы указанных публикаций (данные о которых прошу суд заполучить в редакции, так как выступают они инкогнито, а на мой запрос редакция ответа не дала).

ИСКОВОЕ ЗАЯВЛЕНИЕ О ЗАЩИТЕ ЧЕСТИ И ДОСТОИНСТВА

В газете „Брестский курьер" № 28 за 1994 год опубликована статья И. Шаламова „Эхо кампании по выдвижению кандидатов в президенты". В данной публикации унижают мои честь и достоинство. Факты изложенные в публикации не достоверны. На мое заявление на имя главного редактора от 3.08.1994 года № 2114 с просьбой опубликовать опровержение и назвать автора статьи в которой унижаются честь и достоинство как гражданина, ответа я не получил. Более того, в последующем номере „Брестского курьера" № 42 смотрите статью „Колониальный порядок" вновь автор статьи целенаправленно, необоснованно обвиняет меня, унижая мое достоинство. После проверки изложенных фактов руководством УВД дан ответ редакции в котором указано что злоупотреблений допущенных мной не выявлено.

В № 50 „Брестского курьера" в публикации „На даче лучше чем в зоне" автор статьи продолжает целенаправленно искажать факты с целью оскорбления и унижения моего достоинства, добавляя в каждом номере „факты" такие как будто бы я строил себе котедж. Придумал что мне якобы МВД выделило „Жигули". Вымысел не больше, чтобы опорочить и осквернить меня в лице общественности, унизить мои достоинсто и честь.

И этого оказывается мало.

Снова в следующем номере „Брестского курьера" уже в текущем году в публикации „Явление истины не желательно" какой-то „Наш корреспондент" снова находит „вину Волковича" (см. публикацию).

Учитывая, что публикации в газете „Брестский курьер" носят систематически по отношению ко мне лживый, провакационный характер, преследуя цель опорочить мою честь и достоинство как личности и как бывшего руководителя серьезного коллектива и что мне нанесен и сейчас продолжают наносить, моральный вред, на основании статьи 7 Гражданского Кодекса Республики Беларусь „О защите чести и достоинства".

ПРОШУ:

1. Обязать газету „Брестский курьер" напечатать опровержение данных публикаций и принести публичное извинение.

2. Взыскать с ответчика – газеты „Брестский курьер" за нанесение мне морального вреда один миллиард двести миллионов рублей.

3. Истребовать у редакции газеты фамилии авторов указанных публикаций и взыскать с них в счет возмещения морального вреда по одному миллиарду рублей с каждого.

Приложение: Справки проверок изложенных фактов, упомянутые публикации в „Брестском курьере". 3 экземпляра исковых заявлений. Квитанция об уплате госпошлины. Копии справок.

Всего на 14 листах.

Истец: Волкович Н. Н. (подпись)."

ИНФОРМАЦИЯ ДЛЯ ЧИТАТЕЛЕЙ

30 июля состоялось первое слушание в суде по иску Н. Волковича к „Брестскому курьеру". На запрос представителя редакции, чтобы истец объяснил, каким именно ущербом мотивируется общая, столь внушительная сумма его иска к „БК" и авторам публикаций, Н. Волкович дать ответ отказался.

В суде были заслушаны ряд свидетелей со стороны Н. Волковича. Представитель редакции обратился к суду с рядом ходатайств по запросам документальных материалов, касающихся прежней деятельности Н. Волковича, которые были удовлетворены. Следующее слушание перенесено на более поздний срок.

КРАТКАЯ СПРАВКА ОБ ИСТЦЕ

Н. Волкович проработал в Ивацевичской колонии строгого режима (УЖ 15/5) около тридцати лет. В начале семидесятых годов стал ее начальником. Оставил службу в органах в конце 1994 года. В 1995 году был избран председателем Ивацевичского районного Совета депутатов. Имеет орден Трудового Красного Знамени и личное оружие.

**Газета „Брестский курьер" № 32 за 8–14 августа с. г.**




*Уважаемая Светлана Николаевна СЕРГИЕНЯ из Ивацевич. Примите мои искренние поздравления с днем рождения и пожелания всего наилучшего в Вашей жизни.*

*Пусть счастье, радость и любовь*
*Всегда под Ваш приходит кров.*
*Желаю чаще улыбаться,*

*По пустякам не огорчаться.*
*Желаю благ Вам всех земных.*
*Я знаю: Вы достойны их.*

*Желаю счастья через край,*
*Здоровья крепкого, как сталь.*
*Преград не знать, дорог не мерить,*
*Любить, надеяться и верить.*

*Таиса Ивановна.*

***

*Дарагую мамачку і бабулю СУХАНОСІК Яўгенію Паўлаўну з в. Быч шчыра віншуем з 70-цігадовым юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, каб яшчэ доўга свяціліся вокны тваёго дома.*

*От нас тебе поклон земной*
*За помощь, ласку, доброту,*
*За то, что в жизни сберегла*
*Души тепло и красоту.*
*И хоть года бегут неумолимо,*
*Живи сто лет,*
*Борись, крепись, здорова будь.*
*И будь всегда счастлива.*
*Ты самый близкий*
*И родной наш человек.*

*Сыны, нявесткі, унукі, сваты Пархомікі.*

***

*Дорогая и любимая МИСКЕВИЧ Анна Владимировна из д. Хороща! Поздравляем тебя с днем рождения и от всей души желаем здоровья и счастья.*

*Года незаметно ведут свой отсчет,*
*Бегут наши дни торопливо,*
*Тревожно и грустно порой на душе*
*У мамочки нашей любимой.*
*Как много ей в жизни пришлось пережить:*
*И горесть, и радость удачи*
*Спасибо за все: за твою доброту,*
*За труд, за бессонные ночи,*
*Мы помним об этом и в вечном долгу,*
*И любим тебя очень-очень!*

*Дочки, зятья, внуки.*

***

*Дорогой и любимый муж, папа и дедушка Фёдор Иванович ЕРОШЕНКО из г. п. Телеханы! Прими наши искренния поздравления с 60-летним юбилеем.*

*Пусть годы бегут за годами,*
*О том, что прошло, не грусти.*
*А тех, кто когда-то обидел,*
*Обиды всем сердцем прости.*
*Не трать свои нервы напрасно –*
*Здоровья не купишь нигде.*
*Пусть жизнь твоя будет прекрасной,*
*Здоровья и счастья тебе!*

*Жена, дети, внуки.*



## ВЕЧНАЯ РАКА ЖЫЦЦЯ

*Каб існасць пазнаць,*
*Сэнс жыцця зразумець,*
*Каб месца сваё*
*У сусвеце знайсці*

*І сэрцам адчуць*
*Нараджэнне*
*і смерць –*
*Да вечнай ракі*

*Дастаткова*
*прыйсці.*

*Фота П. ЛУЧЫЦА.*

## АБ'ЯВЫ

● БЮРО НАХОДОК

На прошлой неделе найден кошелек с деньгами и удостоверением участника Великой Отечественной войны на имя **Алексея Григорьевича ЮНЧИКА.**

Уважаемый Алексей Григорьевич! Ваш бумажник сейчас находится в коммерческом магазине „Пралеска" в городе Ивацевичи. Этот магазин расположен по улице Почтовой, 2 (возле самого рынка напротив вокзала). Магазин работает с 9 утра до 17 вечера. Выходной день – понедельник. Приходите, Вас там ждут.

*● Куплю 1500 штук кирпича (можно бывшего в употреблении) и 50 штук огнеупорного кирпича. Звонить по телефонам 2-31-85 или 2-47-07 в любое время.*

*● Продаётся ковер 3 х 4 м, бежево-коричневого цвета. Звонить по тел. 2-22-77 в любое время.*

*● Срочно продаётся 3-комнатная квартира со всеми удобствами. Есть подвал, два сарая, небольшой участок земли с плодовыми деревьями. Вход отдельный. Есть телефон. Цена договорная.*

*Обращайтесь по адресу: г. Ивацевичи, ул. Шевченко, 13 кв. 2 или звоните по телефону 2-12-59.*

*● Продаётся автомашина ВАЗ-2101 1978 года выпуска, в хорошем состоянии. Цена договорная. Звонить в г. Коссово по телефону 32-6-87 в вечернее время.*

*● Срочно продаётся корова первотелка.*

*Обращаться д. Яглевичи, ул. Клютко, д. 44.*

*● Продаётся капитальный гараж в районе улицы 60 лет Октября и мотоцикл „Ява-350" (6 - вольтовая) на запчасти. Телефон соседей 2-46-71.*

*● Меняю 2-хкомнатную квартиру (площадь 27,4 кв. м), 5 этаж, дом новый, г. Ивацевичи на равнозначную в г. Мосты. Тел. 2-21-78 (звонить в любое время).*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 19 жніўня ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы". Рэгістрацыйны нумар 482.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава". Тэлефоны: рэдактара – 2-12-29, карэспандэнтаў – 2-46-30.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Індэкс 63959. Тыраж 2.320 экз. Заказ № 1570.